# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКі ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВіК

№ 49 (1699) ГОД XXXIII БЕЛАСТОК, 4 СНЕЖНЯ 1988 г. ЦАНА 20 зл.

ТЫДЗЕНЬ У БССР

## У МІНСКІХ СЯБРОЎ

З галоўным рэдактарам штотыднёвіка „Голас Радзімы“ Вацлавам Мацкевічам знаёмы мы даўнавата. Нядаўна бачыліся мы ў Беластоку. Быў ён членам афіцыйнай дэлегацыі ад Беларускага таварыства „Радзіма“. У Мінску дамовіліся мы на сустрэчу ў яго рэдактарскім кабінеце, што на Ленінскім праспекце 44.

Беларусы — звыш дзесяцімільённы народ, згуртаваны ў асноўным у межах Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. На жаль, не маюць яны асноў, каб ганарыцца сваім гістарычным лёсам. Рэдка і коратка даводзілася ім па-гаспадарску вырашаць справы на ўласнай зямлі. У XIX стагоддзі пад ярмо Рускай імперыі Беларусь трапіла амаль ужо цалкам апалячаная і падняволеная езуіцкаму насіллю. Толькі па глухіх вёсках, сярод цёмнага люду кволымі парасткамі трымаўся чыста нацыянальны дух, на аснове якога страшэнна позна пачалося беларускае адраджэнне.

Пазней, пасля Рыжскага дагавору, ва ўсходняй частцы раздзеленай Беларусі, сапраўды, беларусы зажылі поўнай свабодай. БССР сталася ўласным домам свабодных беларусаў. На жаль, ненадоўга.

У гэты ж час у Заходняй Беларусі таксама наглядаўся нацыянальны ўздым. Дастаткова будзе прыгадаць тут дзейнасць сялянска-рабочай сацыялістычнай „Грамады“ і змаганні Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі.

Сталінскі смяротны каток праехаўся па ўсяму, што было найлепшае і нацыянальнае ў Савецкай Беларусі, а па загаду Пілсудскага замоўклі ўсе беларускія школы і газеты, запоўніліся турмы беларускімі „грамадоўцамі“ і камуністамі. На адным крыжы з двух бакоў граніцы распіналі жалезнымі цвікамі шматпакутную Беларусь. Там голад ад калектывізацыйнай разрухі, тут галеча ад панскага прыгнёту, падаткаў і недахопу зямлі. Так ці інакш — бяда і гора.

Хто смялейшы і адважнейшы, той уцякаў з Заходняй Беларусі „за хлебам“ у далёкую Амерыку, Канаду, Аргенціну. У Польшчы, асабліва ў пачатку дваццатых гадоў, былі такія магчымасці. Мой родны дзядзька Мікалай прапаў недзе ў гэтай Аргенціне.

Настала акупацыя. Зноў час няведаных пакут. Хто на фронце, хто ў палоне, хто ў лагерах — і сталінскіх і гітлераўскіх — хто ў партызанах, а хто на катаржнай рабоце ў Рэйху. Вывозілі пераважна маладых, іх было найбольш.

Не ўсім, што апынуліся за межамі СССР, хапіла адвагі вяртацца назад. Ведалі і памяталі, што перажылі іх бацькі, знаёмыя і суседзі, баяліся, каб не папасці ў катэгорыю „ворагаў народа“.

Дык многа нашых суродзічаў разбрылося па розных краінах свету; яны закараніліся, павыходзілі замуж, пажаніліся, абзавяліся сем'ямі, пабудавалі ўласныя дамы, цэрквы і культурна-грамадскія цэнтры.

Усіх іх кліча „Голас Радзімы“, штотыднёвік Беларускага таварыства па культурных сувязях з суайчыннікамі, значыць, Беларускага таварыства „Радзіма“. Выдаецца ён ад 1955 года.

Можна адарвацца ад роднай айчыны, ад бацькоўскай зямлі, але немагчыма вырваць гэтай айчыны з уласнага сэрца, хіба што разам з гэтым сэрцам. Славуты Данчык, нью-йоркскі салавейка, нарадзіўся ўжо ў Амерыцы. Ніхто, аднак, не спявае так прыгожа аб Беларусі і так чыста па-беларуску!

Найбольш, аднак, беларусаў па-за межамі БССР жыве ў Польшчы. Можна меркаваць, што ў ПНР знаходзіцца зараз каля паўмільёна больш ці менш свядомых беларусаў. Шматзначная частка з іх, сапраўды, ужо цалкам апалячылася.

Беларускае таварыства „Радзіма“ ўрэшце зразумела гэтую элементарную праўду, што менавіта ў Польшчы пражывае

(Працяг на стар. 2)



Навейшы набытак сталіцы БССР — гасцініца „Беларусь“.

## ГАЛАСЫ З'ЕЗДА

*Мінула звыш месяца пасля XI З'езда БГКТ. Асноўную інфармацыю аб працы З'езда і аб выбарах улад „Ніва“ ўжо падала. Друкаваліся таксама некаторыя выступленні дэлегатаў і гасцей. Лічым аднак, што чытачу будзе цікава даведацца шырэй аб праблемах і пытаннях, якія закраналіся дэлегатамі на З'ездзе. Прапануем некалькі выпускаў палоскі „Галасы З'езда“, на якой пастараемся прадставіць болей цікавыя выступленні ў з'ездаўскай дыскусіі. Выступленні паводле пратакола апрацаваў Ян Максімюк. Пераказ выступленняў не аўтарызаваны. Друкуем усе выказванні, хаця не з усімі рэдакцыя згаджаецца.*

— ✱ —

**Сакрат Яновіч з Беластока** сцвердзіў, што якраз маем апошні момант, каб можна было яшчэ скрануцца з месца і выйсці з доўгатрывалага застою, у якім апынулася БГКТ. Дзеля гэтага трэба ўвесці ў нашу арганізацыю як мага болей маладых людзей, якім хочацца дзейнічаць у карысць беларускага асяроддзя. Неабходна мяняць склад улад БГКТ, зрабіць стаўку на маладых. Жывем у часы рэвалюцыйных пераўтварэнняў, а гісторыя вучыць нас, што рэвалюцыі ніколі не рабілі людзі старыя. Сакрат Яновіч спаслаўся тут на прыклад Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Расіі.

У працы звенняў Таварыства Сакрат Яновіч адзначыў малую, а то і нулявую, актыўнасць большасці гурткоў. Указваючы на прычыны, вылучыў на першым месцы клопат з наборам адпаведных штатных працаўнікоў ГП БГКТ. Таварыства можа пакуль што запрапанаваць сваім інспектарам малыя — па сённяшніх меркаваннях: жабрачыя — зарплаты. Таму энергічныя людзі, якія хочуць за добрую працу атрымліваць добрую зарплату, наогул абмінаюць БГКТ. На сённяшні дзень абставіны такія, што добра могуць працаваць у Таварыстве толькі ідэалісты. Трэба было б, мабыць, спалучаць штаты ў БГКТ: інакш кажучы, узяць менш людзей, але затое болей дзейсных.

С. Яновіч крытычна паставіўся да працы Галоўнага праўлення ў мінулым перыядзе. На самай справе тры апошнія пасяджэнні ГП БГКТ не адбыліся, бо не было кворум. Людзі ўжо крыху змучыліся і гэта яшчэ адзін доказ таму, што патрэбныя новыя, маладыя сілы. Разумныя планы працы ў БГКТ

(Працяг на стар. 2)

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

## АМЕРЫКА, ЯКАЯ ТЫ?

### РУСКАЯ ЗАРУБЕЖНАЯ ЦАРКВА

Прачытаўшы загаловак, мабыць, многія падумаюць: а якая нам, беларусам, справа да рускай зарубежнай царквы? Аднак аказалася, што мы, беларусы, маем дачыненне і да рускага „Божага дому“.

Калі я быў у Кліўлендзе, дык даведаўся, што ў гэтым горадзе існуе Руская зарубежная царква, якая кананізавала, гэта значыць, увяла ў лік святых усю сям'ю апошняга рускага цара Мікалая, і што цяпер прыхаджане гэтай царквы моляцца не толькі за цара, але і да цара. Каб было яшчэ дзіўней, прыхаджанамі гэтай царквы ў значнай ступені з'яўляюцца беларусы. Калі гаварыць шчыра, дык я гэтаму не паверыў. Мог бы я ўспрыняць, што нейкія „выжившие из ума“ старыя рускія манархісты маглі пайсці на аванцюрызм, але не мог уявіць сабе, што сярод тых, хто моліцца да Мікалашкі, знаходзяцца беларусы. Аказалася аднак, што ўсё на гэтым звар'яцелым свеце магчымае. Паехаў я ў Рускую зарубежную царкву з вельмі актыўнымі беларусамі з Кліўленда паняй Ірэнай С. і Сяргеем К.

Калі мы ўжо прыехалі на месца, пабачыў я вельмі прыгожы новы будынак царквы, акружанай чырвонай асенняй дубровай. Дзень быў будні і царква была закрыта. Аднак нам вельмі пашанцавала. Калі мы толькі абыйшлі вакол будынак царквы, паявіліся два святары, адкрылі дзверы і ўвайшлі ў царкву. Паціху прасунуліся ў царкву і мы. Духоўныя былі заняты сваімі справамі і нам не перашкаджалі аглядаць царкву. Трэба сказаць, што царква ўнутры вельмі светлая і прыгожая, а яе сцены запоўнены роспіссю. І гэта роспіс пацвердзіла інфармацыю аб кананізацыі царскай сям'і. Пад велізарным распяццем Хрыстовым злева і справа ад крыжа стаяла ўся царская сям'я з арэоламі вакол галоў, а над усім гэтым быў надпіс „Собор святых русской земли“. Я доўга не мог адарваць вачэй ад гэтай неверагоднасці. Аднак, факт быў так яскравы і так недарэчлівы, што нельга яго было не ўспрымаць як рэчаіснасці. Стоячы, я супакойваў сябе, тлумачачы, што, мабыць, нейкія рускія арыстакраты ці памешчыкі, безразумныя фанатыкі рэалізавалі такую недарэчлівую ідэю і ім добра з гэтай ідэяй фікс. Аднак наступныя мінуты, што называецца, звалілі мяне з ног. Мае меркаванні аб тым, што ўсё гэта толькі зацея рускіх манархістаў, з якімі беларусы не маюць нічога супольнага, аказалася памылкай.

А сталася гэта так. Духоўныя пацалаваліся і адзін з іх выйшаў з царквы, а да другога падвяла мяне пані Ірэна і пазнаёміла. І тут наступіла свайго роду землетрасенне. Аказалася, што настаяцелем у гэтай царкве з'яўляецца духоўны-беларус, які мяне ведае. Калі я яму прадставіўся, сказаў ён, што мяне ведае, што ведае маю сястру і ўсіх жыхароў Бандароў. Святар запрасіў нас на плебанію і сказаў, што ў яго прыходзе каля 40 прац. беларусаў. Пасля выступіў ён з вельмі цікавай тырадай аб тым, што мы, беларусы, незалежна ад розніц у палітычных, грамадскіх ці этычных поглядах павінны яднацца на нацыянальным беларускім грунце. Прызнаюся, што слухаючы святара, у мяне расло ад радасці сэрца. Надта падабаліся мне яго словы. Мне здалося, што якраз згэтуль пасыплюцца долары ў фонд Беларускага музея. І таму, калі толькі сын беластоцкай зямлі скончыў сваю прамову, уключыўся я і, падкрэсліўшы, што сказаныя святаром словы правільныя, што я пад імі цалкам падпісваюся і што ёсць адна нацыянальная справа, якая поўнасцю рэалізуе ідэю святара, а гэтай справай з'яўляецца Музей у Гайнаўцы (родам святар з Гайнаўшчыны), які павінны мы ўсе разам збудаваць, нягледзячы на грамадскія ці этычныя адрозненні. І што ён павінен звярнуцца, так як гэта робяць іншыя беларускія духоўныя, да сваіх прыхаджан-беларусаў і заахвоціць іх даваць грошы на музей. Крыху здзівіла мяне, што пасля маёй арацыі святар не падтрымаў тэмы, і сказаў, што напэўна мы хочам піць і ён нам прынясе соку. Я быў упэўнены, што наліваючы на кухні сок, абдумвае маю прапанову і зараз пачне аб ёй гаварыць. Так, аднак, не сталася. Айцец А., вярнуўшыся, пачаў гаварыць аб зусім іншых справах. Я, адчакаўшы крыху, ізноў вярнуўся да справы музея. На гэты раз ужо не было ніякіх сумненняў. На прыгожым твары святара паявілася грымаса незадаволенасці і ён намякнуў, што ў яго малавата часу на тое, каб прадаўжаць наш візіт. Я зразумеў, што ад беларусаў-прыхаджан з Рускай зарубежнай царквы не паплывуць долары ў фонд Беларускага музея ў Гайнаўцы.

Мы развіталіся даволі холадна, хаця дзень быў сонечны і цёплы. Адыходзячы, мне вельмі хацелася спытацца, з якой гэта рацыі і прычыны беларусы моляцца за рускага цара ў Кліўлендзе. Аднак, прызнаюся, не хапіла для гэтага мужнасці. Адыйшоў я моўчкі і доўга, доўга буду ўяўляць сабе сыноў беларускай зямлі, згуртаваных пры „святой“ царскай сямейцы. І як тут не сказаць аб беларусах: „авечкі“!

**Алесь Барскі**

---

(Працяг са стар. 1)

### ГАЛАСЫ З'ЕЗДА

існавалі здаўна, аднак, на жаль, яны не ажыццяўляліся. Напрыклад, справа выдавання „Беларускага календара“. Павінен ёю заняцца адзін добра аплачваемы чалавек. Тады не было б спазненняў з гэтым выданнем. Закранаючы справу абсталявання будучай друкарні, аб якой гаварыў у сваім выступленні Аляксандр Баршчэўскі, Сакрат Яновіч яшчэ раз падкрэсліў патрэбу далучэння да гэтага мерапрыемства маладых людзей.

— * —

**Пётр Германюк з Аўгустова** закрануў праблему несуразмернасці паміж укладам беларусаў Беласточчыны ў справу ўмацавання народнай улады ў Польшчы і пабудовы сацыялістычнай дзяржавы ды сённяшнімі адносінамі ўлад да правоў беларускай меншасці ў Польскай Народнай Рэспубліцы адносна развіцця свае нацыянальнае тоеснасці.

Нагадаў балючую справу знявечвання беларускіх назваў мясцовасцей на Беласточчыне. Польскія назвы, афіцыяльна ўстаноўленыя, фальшуюць, а часамі і перайначваюць беларускае паходжанне і сэнс назвы. Разумна было б устанавіць двухмоўныя надпісы на дарогах і пры мясцовасцях. Прыпомніў, што жыхары вёскі Доўгі Брод у гміне Дубічы-Царкоўныя вырашылі паставіць табліцу з беларускай назвай свае мясцовасці, аднак былі вымушаны яе зняць пад націскам службоўцаў з раённай управы ўнутраных спраў.

Закрануў справу асадніцкай палітыкі ўлад у прыгранічнай паласе Беластоцкага ваяводства, якая ў народзе займела назву „ўсходняй сцяны“. Палітыка гэтая, на думку дэлегата, з'яўляецца яшчэ адной спробай „вырашэння“ беларускай нацыянальнай праблемы паводле санацыйных узораў. Намер улад такі, каб акружыць этнічна суцэльную беларускую тэрыторыю польскім насельніцтвам і паступова растапіць беларускую нацыянальную стыхію.

Скандалам, паводле П. Германюка, абярнулася справа найменавання вуліц у Беластоку імёнамі Янкі Купалы і Якуба Коласа. Фармальна такія вуліцы апынуліся нават на карце горада Беластока, але на самай справе, на іхнім месцы пакуль што вецер гуляе ў белым полі.

Карыснаму развіццю навучання польскай мовы на Літве, Беларусі і Украіне дэлегат супрацьставіў праблему беларускай асветы на Беласточчыне, дзе з году ў год справа навучання беларускай мовы становіцца штораз болей занядбаная. Улады адышлі ад асветніцкай палітыкі, якую праводзілі ў 60-тых гадах, і цяпер навучанне беларускай мовы, нават на абшары, дзе пражываюць адны беларусы, добраахвотнае. А гэта абазначае, што бацькі мусяць запісваць сваіх дзяцей на беларускую мову. Як на практыцы выглядае такая добраахвотнасць, ведаем аж надта добра.

Пётр Германюк падкрэсліў, што беларусы заўсёды будуць у апазіцыі супроць тых сіл і напрамкаў у палітычным жыцці, якія імкнуцца перайначыць, а то і ўвогуле ігнараваць ленінскія ўказанні адносна нацыянальнай палітыкі.

У адрас будучых улад БГКТ скіраваў наступныя прапановы: арганізаваць у Беластоку навучанне беларускай мовы ў прынамсі дзвюх пачатковых школах і ў ліцэі, імкнуцца да стварэння беларускага прадстаўніцтва ў Сейме, паўплываць на адміністрацыйныя ўлады адносна ўстанаўлення двухмоўных назваў мясцовасцей на Беласточчыне.

---

## У МІНСКІХ СЯБРОЎ

(Працяг са стар. 1)

найбольш патэнцыяльных прыхільнікаў яго праграмнай дзейнасці.

І таму „Голас Радзімы“ адгукаецца зараз і да беларусаў у Польшчы. На гэты тыднёвік можна ўжо свабодна падпісвацца ў паштовых аддзяленнях і ў аддзелах прадпрыемства „Рух“ на тэрыторыі цэлай Польшчы. Гадавая падпіска каштуе зараз 1300 зл.

„Голас Радзімы“ перш за ўсё прапануе цікавую і змястоўную інфармацыю. Бяру вось у рукі першы-лепшы нумар гэтага штотыднёвіка. На першай старонцы — вялікая фатаграфія Лідскага замка. Гэта помнік архітэктуры XIV ст. На апошняй, восьмай абочыне, знаходзіцца займальны расказ археолага А. Краўцэвіча пра гэты замак.

А ў сярэдзіне, на іншых старонках? Тут і аб савецка-амерыканскім супрацоўніцтве, і аб лёсе звычайных рабочых. Расказвае Ірына Каланіцкая: *„Ну, як і 22 гады таму назад, я ўсё ў тым жа зборачным цэху. Вось толькі зарабляю ўжо не 90—100 рублёў, а 180—210...“*

На іншай старонцы журналіст А. Кур'яновіч перадае ўражанні Станіслава Жолудзя ад наведвання сваёй роднай сястры, якой не бачыў 47 гадоў. На эміграцыю вандраваў ён цераз „исправительно-трудовой“ лагер і Войска Польскае пад камандай Андэрса. Шлях тыповы для многіх беларусаў і ўжо нам вядомы. Урэшце прызямліўся ў Амерыцы, быў токарам у горадзе Бостан. „Працаваў увесь час на адным прадпрыемстве. Зарабляў у тыдзень да 500 долараў...“ — расказвае Ст. Жолудзь. А крыху ніжэй дабаўляе, што ёсць у яго сын, завуць яго Глен. Сёлета ён заканчвае сярэднюю школу, — расказвае гэты беларускі амерыканец. — Другі год як вучыцца ён у прыватнай школе. Вучоба абыходзіцца бацьку ў 3 тысячы долараў у год...“

... І так можна было б разглядаць кожны іншы нумар „Голасу Радзімы“. Дарэчы, цалкам нядаўна гэты штотыднёвік пісаў і пра нашых землякоў, якія пабывалі ў Мінску на курсе спеву і народных танцаў. Запрасіла іх Беларускае таварыства „Радзіма“...

Развітваючыся з рэдактарам Вацлавам Мацкевічам, мы дамаўляліся на наступныя сустрэчы і супрацоўніцтва. Дык да наступных сустрэч! „Голас Радзімы“ кліча на свае старонкі, у сваю рэдакцыю, а мы ахвотна адгукваемся на гэты заклік.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара

# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 354


## Лета, лета і па леце...

Калі будзільнік трашчыць, бо ён трашчыць, а не меладыйна звоніць, за акном ужо спякота. Дзень ледзь-ледзь прабіваецца праз сцяну лесу, што падыходзіць пад самы „блок“.

„Звалакацца з тапчана зусім не хочацца, — праз хвіліну так падумаю, — прыдалося б даўжэй паспаць“.

Але ж уся сям'я зараз будзе памагаць бацьку хутка выбрацца на работу, бо гэтая хвіліна расцягваецца на гадзіну або і больш салодкага дасыпання.

І таму, наогул, калі будзільнік трашчыць, я як які аўтаматычны манекен, спускаю ногі на падлогу і чакаю, калі свядомасць пагоніць брыцца.

Можна сказаць, што восень сваімі сумна-імгельнымі шчупальцамі, як скрут, ахапіла яшчэ не так даўно вясёла-сонечныя поранкі.

Восень — гэта меланхолія. Невядома чаму чалавека такога, як я, ахоплівае асенняя меланхолія? Можа таму, што і жыццё больш такое ўжо асенняе, чым летняе? Хоць, з другога боку, як казаў той яўрэй у „Скрыпачы на даху“, апрача восені, ад часу да часу позірк сам мерыць вартасць, зусім палетняму павабна раскрытых, не толькі ўборам, але і душой, жанчын.

Лета, лета і... па леце. І колькі ж таго лета? Тут, у нас, лета кароткае. У чэрвені яшчэ яго няма. Халодны вецер з мора прыпамінае аб нядаўна мінуўшай вясне.

„Ну, а ліпень?“ — перапытвае нехта. Так. Гэта летні месяц. „А жнівень?“ — Да фестываля ў сапоцкай Летняй оперы таксама лета, як не кажы. Хоць калі карэннаму сапацяніну за некалькі дзесяткаў гадоў раз удасца паслухаць і пабачыць, як кажуць, „нажыва“ фестываль, дык прадбачліва захоплены з сабою плед служыць не толькі дзеля сядзення.

Лета кароткае, затое восень доўгая і цёплая. Цёплая, дзякуючы мору, рэзервуару цяпла. Восень не толькі цёплая, але і каляровая, як быццам той „Электрон“, які ўдалося мне набыць з прыватнага імпарту новай, апрача сельскагаспадарчай, спецыялізацыі Беласточчыны.

Вераснёвы Сопат можна нават палюбіць. Чалавечы натоўп адпачываючых у гэтым слаўным на ўсю Польшчу курорце ў верасні моцна радзее. Цяпер без чаргі ўдаецца купіць марожанае, і нават з прыяцелем пагутарыць пры куфлі піва за столікам у агародчыку, якога пакуль што не зачынілі, бо ўсё ж такі яшчэ „сезон“ не мінуў.

А пасля „сезона“ шарэюць не толькі поранкі, але і дні, якіх за калаўроткам працы на рабоце нават і не бачыш, апрача „вольнай суботы“ і лянівай нядзелі. А вядома ж як выглядае дзень у „вольную“ суботу. Гэта проста субота, а не дзень.

І гэтак можна сказаць, што мінуў яшчэ адзін год. Бо што ж можа здарыцца ў гэтым задрыпаным жыцці ад восені да зімы апрача весялейшага свята ёлкі, калі можна на хвіліну адарвацца ад штодзённасці і забыць, што час гэтак хутка прамінае?

Восень. Сопат.

**М. Махнацкі**

## „ГАСЦІНЕЦ“

Так называцца будзе літаратурная анталогія „белавежцаў“, якую падрыхтавала да друку Краёвае выдавецкае агенцтва ў Беластоку. У кніжцы будуць змешчаны найлепшыя творы нашых літаратараў за 25 год дзейнасці аб'яднання. Будзе ў ёй арыгінал і — паралельна — пераклад на польскую мову. Уводзіны да анталогіі напісаў вядомы даследчык польска-беларускіх літаратурных сувязей Фларыян Няўважны, а каляровымі малюнкамі ўпрыгожыў „Гасцінец“ выдатны беластоцкі мастак С. Рыбі.

„Дом кніжкі“ збірае ўжо заяўкі на гэтае каштоўнае выданне. Туды і павінны кіраваць іх індывідуальныя чытачы з Польшчы. Горш з чытачамі ў БССР. Ці не магла б мінская кнігарня, у якой прадаюцца польскія выданні, скласці адпаведны заказ (можна і на некалькі тысяч экземпляраў)? А можа савецкія сябры знойдуць іншае выйсце — просім усіх, хто можа, дапамагчы ў гэтым. Заказ трэба кіраваць на адрас: Krajowa Agencja Wydawnicza w Białymstoku, 15-269, ul. Podedwornego 12 A. Індывідуальных заказаў агенцтва не прымае.

Беларускія арганізацыі на Захадзе могуць кіраваць заказы ў ГП БГКТ. Найлепш праз заслужаных збіральнікаў узносаў у фонд пабудовы беларускага музея: Веру Бартуль (Нью-Йорк), Пятра Кажуру (Нью-Брансвік), Сяргея Карніловіча (Клійленд) і Аляксандра Шаршуновіча (Канада). Цана кніжкі з перасылкай 50 цэнтаў.

(ювэ)

### БАЧАННЕ

*„Марыська чарнабрыва,*
*галубко мая...“*
*К. Каліноўскі*

1

Азвіся, мілая,
скажы хоць слоўца...
Сумныя вочы свае падымі.
Не трэба маўчаць,
Пакуль льецца ў крыві
Жыццё наша,
Да Зямлі Роднай любоў.
Прабач мне, мілая, мо цябе
я крыўджу,
Дзяцюк з дзяцюкоў я, з натуры
наіўны...
Прабач мне, галубка, не тое
сказаў —
Гаварыць прыгожа мяне
Не вучылі...

2

Зайграйце, дудары,
Увесь свет растрывожце!
Хай пачуюць нашы змагары
Гукі волі, гукі любові...
Хай у іх сэрцах
Вясна расквітнее,
Хай магутней становіцца душы.
Варожа сіла іх не пасмее
рушыць!
Не пасмее!

3

... Мілая, галубка мая,
Як я б хацеў,
Каб сон збыўся.
Толькі прашу: не праклінай
мяне!
Не праклінай мяне!
Не праклінай!

**Мікола Сахарэвіч**

### ЗНЯВОЛЕНЫ Ў ГІПСЕ

Хацелася зләвіць аўтобус,
Забыў: мінула маладосць.
І сам сабе зрабіў хваробу —
Зламалася ў ступні мне косць.

Сяджу, зняволены я, ў гіпсе,
Нага таўшчэзна, як гара.
І сам сабе кажу: не сыпся,
Яшчэ зарана, не пара.

Хоць надыходзіць твая восень,
Трэба табе здаровых ног.
Яшчэ ж так многа засталося
Няпройдзеных жыцця дарог.

Дык не рабі дурной больш
спробы
І не ляці так наўздагад.
Будзе ўцякаць табе аўтобус —
Скажы тут: асадзі назад!

**Віктар Швед**

— * —

Чаго ад бацькі навучыўся,
Таго ніколі не шкадую.
Яшчэ да сёння не забыўся,
Заўсёды позірк яго чую.

Бо калі пот краплісты ліўся,
Яго сардэчны голас чуў я:
Чаго ад бацькі навучыўся,
Таго ніколі не шкадую.

І хоць не раз ужо стаміўся,
Зусім прыстаў, і ледзь іду я —
Чаго ад бацькі навучыўся,
Таго ніколі не шкадую.

А калі зноў вады напіўся,
Пачаў гаворку, як жывую:
Чаго ад бацькі навучыўся,
Таго ніколі не шкадую.

**Леапольд Танкевіч**

— * —

калі наступіць чорны дзень
павер
ён не апошні
не пужайся ўзляцець
на ведзьмавай мятле
у багровы замак
што на чортавай гары
каб упэўніцца
як за неронавым сталом
сытым пладамі твайго поту
варожаць
аб
тваім
жыцці
ад імені твайго
таргуючы загонамі бяды
пад штыкамі
ядзерных
пагроз
каб ты пакорлівым быў
народ
не палохайся ўваскрэснуць
калі
з мазолістых рук тваіх
узыдзе
сонца
мільярдавай
волі

**Віктар Стахвюк**

— * —

е такі час
от которого нэ утэчэш
і слово Саломона
напоўняе тэбэ огнём
чуе його родяшча
і старадаўна — взглядом над
гробом
і нэшчасліво влюбленным
здаецьця жэ то воны

**З. Сачко**

### DULCE ET DECORUM

нядаўна зайздросціла я
тым што гінулі з галавою
на кулямёце і кветках

калі дыханне выцякае
між пустымі пальцамі
хапаючымі цень

лацінскія прыказкі кароткія
халодныя гладкія як мармур
шэра-ружовыя

кроў салодкая клеяцца
валасы да пліт мармуровых
кроў салодкая

**Міра Лукша**



ОЙ, БЕЛАВЕЖА... БЕЛАВЕЖА...

*Мікалай Давідзюк, 1988*

## СПЯВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

### КАЦЯ — КАЦЯРЫНА

*Музыка У. Будніка*

*Словы А. Грачанікава*

*За палямі, за лясамі,*
*За грымотнымі шляхамі,*
*Дзе цвіце ў гаях каліна,*
*Расцвітала Кацярына.*

*Прыпеў:*

*Вочы ў гэтай чараўніцы,*
*Як палескія крыніцы,*
*Косы ў Каці-Кацярыны,*
*Як лясныя ручаіны,*
*Каця, Каця,*
*Каця, Каця-Кацярына,*
*Ад зары і да зары*
*Стогнуць хлопцы, як бабры.*

*Калі Каця йдзе дадому,*
*І, забыўшыся на стому,*
*Хлопцы ходзяць кругаля,*
*Каб убачыць хоць здаля.*

*Прыпеў:*

*Хлопцы, Кацю не чапайце,*
*Хлопцы, крыху пачакайце,*
*Хто з вас ходзіць недарма,*
*Каця скажа вам сама.*




## НІЎКА



Удзячнасць. Рэкордная вага.

— Ты знаеш, у нас з мужам аднолькавыя навыкі.
— Ці магчыма гэта?
— Так, але мне трэба было пяць год, каб ён да гэтага прывык.

— ✲ —

У час сямейнай сваркі жонка крычыць мужу:
— Было б лепш, калі б я выйшла за самога д'ябла!
— Гэта немагчыма. Шлюбы паміж блізкімі сваякамі забаронены.

— ✲ —

— Мілае дзіця, хто навучыў цябе так лаяцца?
— Навучыў, навучыў! Як быццам чалавек не можа мець таленту ад нараджэння.

— ✲ —

— Ведаеш, Марыся, мяне муж адзеў з ног да галавы за адну сваю палучку.
— А што ён табе купіў?
— Панчохі і грэбень.

— ✲ —

**Настаўнік і вучань у акулярах.**
— Пятро, навошта чалавеку вушы?
— Каб бачыць.
— Як жа гэта?
— А як бы я насіў акуляры, каб у мяне не было вушэй?



**Дурань любіць паўтараць: „У мяне свой розум ёсць".**

*Уладзімір Бычэня*

## КОЦІК

Антось Затаўка змагаўся з усіх сіл. Матляў галавою. Тузаў сябе за вушы. Але пасляабедзенны сон браў верх, галава хілілася да незакончанай справаздачы. Зазваніў тэлефон.

— Алё! Гэта ты, Коцік? — лагодна прапеў вясёлы жаночы голас.

Антось хацеў сказаць: „Вы памыліліся" — але, каб зусім адкараскацца ад недарэчнай сонлівасці, рашыў пазабаўляцца:

— Коцік быў, ды сплыў, — гарэзна сказаў у трубку.

— Куды?
— У магазін.
— Ды яшчэ і дзвюх гадзін няма, — пажартавалі ў трубцы.
— А ён не па гарэлку. Па кветкі.
— Чуеш, Вася! Ён кветкі для нас шукае, — радасна паведаміла жанчына камусьці ўбок.
— Коцік зусім не для вас кветкі шукае, — астудзіў не Антось. — Для нявесты. Ваш Мяў-мяў жаніцца надумаў.
— Як гэта! — радасці ў трубцы быццам і не было. — Ён жа ўжо жанаты.
— Была ў сабакі будка, а ў Коціка кошка. Разваліся яны. Гаршчок аб гаршчок — і хто куды.
— Даўно яны гэта... Гаршчок аб гаршчок! — пасля паўзы заклапочана запытала трубка.
— У канцы мінулага квартала, — распяразваўся Антось. — Жонка ж Коціка паедам ела. Тры разы на дзень. Раніцай, у абед і перад сном. Без выхадных. З яго засталося — косці ды скура.
— На Ганку зусім гэта непадобна... І чаго яны там не падзялілі!
— Ёй, бачыце, на „Волзе" раз'язджаць захацелася.
— То ў іх жа „Жыгулі"...
— Былі ды сплылі, — не задумоўваючыся, ляпнуў Антось.
— Згарэлі — і дыму не засталося.

На тым канцы дроту стала ціха, потым пачуліся ўсхліпы.

— На ты, Вася, я ўжо больш не магу. — І ў трубцы загудзеў бас:

— Паслухайце! Мы званім з вакзала, едзем да дачкі ў госці. А тут чорт яго ведае што: з'ўляецца нейкая нявеста, знікаюць „Жыгулі"... Растлумачце ўсё па-парадку.

Антось не любіў звязвацца з мужчынамі, асабліва з уладальнікамі баса. Таму адказаў:

— І званіце сваёй дачцэ. Хопіць людзей ад работы адрываць.

— На гэтым тэлефоне павінен быць Леў... — злаваў мужчына. Але Антось яго ўжо не слухаў.

— Вам то Коціка, то Льва. Звяртайцеся ў звярынец!

Пасля разрадкі працавалася лёгка, з натхненнем. Антось нават незадаволена зморшчыўся, калі да яго заглянуў загадчык аддзела.

— Я і забыў вас папярэдзіць, — сказаў Леў Іванавіч. — Сапсаваўся мой тэлефон, а тут цесць з цешчай павінны званіць. То я ваш тэлефон даў. Цікавыя людзі, кажуць: „Які ты Леў, ты наш Коцік"... Пазвоняць, адразу клікніце мяне.

У грудзях Антося нешта дзынкнула, абарвалася і пакацілася ў пяткі...





Без слоў.



Бібліятэкар на пенсіі.

### ЦІКАВЫЯ ДУМКІ

Для кахання аднолькава неабходныя — і суровыя выпрабаванні жыцця, і жывыя ўспаміны таго, як яно, каханне, пачыналася.

**Аляксандр Фадзееў (1901—1956), пісьменнік**

✲

Прафесар: — А цяпер адкажыце мне, як атрымаецца вадарод?

Студэнт: — Вельмі проста. Бярэм сераварод, награваем... Сера выпараецца, вадарод застаецца.

Прафесар: — Ясна. Стаўлю вам „пяць". „Тройка" выпараецца — „двойка" застаецца.




**Калі вы адчуваеце, што наспявае сямейны канфлікт, не выходзьце з сябе. Лепей выйсці з дому. Свежае паветра — залог сямейнага шчасця.**